# КРЫВІНКА

ТРАВЕНЬ
№7 (233)
2019 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА



МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## ДЗЕНЬ ЗАКАНЧЭННЯ ВАЙНЫ

**У Беларусі за апошнія гады 9-га мая пераўтварылася ў вялікі святочны дзень.**

Наш райцэнтр не стаў выключэннем з правіла. У Бешанковічах праходзіць дэманстрацыя, якая збірае каля 2 000 чалавек, што складае трэць Бешанковічаў. Яе ўдзельнікі звычайна праходзяць прывычным маршрутам па вуліцах Камуністычнай і Інтэрнацыянальнай. Многія нясуць пры гэтым фота загінулых у Другую ўсясветную вайну. Першыя асобы раёна ўскладаюць вянкі да пахаванняў на вуліцы Інтэрнацыянальнай і да Кургана Славы. На апошні ўзводзяць пад рукі нямоглых ужо ветэранаў, якія седзячы слухаюць прамову старшыні райвыканкама і словы падзякі ім самім. Пасля выступае мясцовы ваенкам, хтосьці з гасцей і школьнікаў. На гэтым ідэалагічная частка свята лічыцца закончанай, а яно перамяшчаецца ў цэнтральны парк. Тут пад старымі дрэвамі за шашлыкамі і песнямі свята працягваецца яшчэ пару гадзін.

За апошнія гады ўсё больш ягоных удзельнікаў апранае вайсковую форму, падобную на тую, што насілі падчас вайны. Мусіць, гэта лічыцца крута.

У афіцыйнай ідэалогіі лічыцца, што Беларусь у гэтай вайне змагалася з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, ад чаго згубіла кожнага трэцяга жыхара. Пра Грамадзянскую вайну, якая пачалася ў Беларусі яшчэ ў перыяд калектывізацыі, і працягвалася праз усю Другую ўсясветную, стараюцца не ўспамінаць. Хоць менавіта праз гэтае процістаянне беларусаў супраць беларусаў Беларусь і панесла свае вялізныя ахвяры.

Апошнім часам усё больш вядомых людзей на постсавецкай прасторы выказваецца наконт таго, што фармат святкавання 9-га мая трэба змяняць. Замест лозунга "Мы – пераможцы!" трэба ўзняць лозунг "Мы ўсё помнім!", як гэта зроблена ў Еўропе. Гэта дапаможа беларусам дыстанцыявацца ад рускага свету, які выкарыстоўвае гэтую дату ў агрэсіўных мэтах. Але, думаецца, пакуль Беларусь застанецца ў палоне дыктатарскага рэжыму, зрабіць тое будзе праблематычна.

**Г.Станкевіч**

****

*Сёньня ранкам на вуліцы*
*было даволі золка,*
*і ў маю хату "папрасіўся"*
*дзьмухавец –*
*напэўна, ягоны цікаўны нос*
*выпадкова патрапіў пад вочапку*
*вядра.*

*Ягоная залацістая галава*
*ляжала на парозе,*
*прыплюснутым вокам*
*разглядаючы*
*невядомае ёй наваколье.*
*За дзень так аніхто*
*і не наважыўся*
*той дзьмухавец прыбраць –*
*пра яго існаваньне*
*проста забыліся.*

*Вечарам, калі я запаліў святло,*
*то знайшоў госця ляжачым*
*на парозе,*
*толькі ад хатняга цяпла*
*ён распусьціўся: стаў белым*
*і пушыстым.*

*Засталося зрабіць відавочнае:*
*разнасьцежыць вакно*
*і выпусціць госця*
*ў ягоную адмысловую вандроўку,*
*да якой ён рыхтаваўся*
*ўсё сваё жыцьцё.*

***Г.Станкевіч***

ДОШКА

## НАС ЗНОЎ ПАДЗЯЛІЛІ НА ЛЕПШЫХ І ГОРШЫХ...

**Напярэдадні травеньскіх сьвятаў у Бешанковічах абнавілі Дошку гонару. Там цяпер можна ўбачыць новыя твары.**

Скажу шчыра: тое, што ўлада прывычна дзеліць нас на людзей першага гатунку і другога, мне ня вельмі прыемна.

Адзіны станоўчы момант гэтага абнаўлення, мусіць, той, што ўсе лаўрэаты атрымаюць грашовы падарунак. Гэта прыемна. Але яшчэ прыемней было б, каб усе яны штомесяц атрымоўвалі не костку з панскага стала да свята, а нармальны чыноўніцкі заробак у 1200 — 1500 беларускіх рублёў. (Можна і больш.)

Пакуль што трактарысты і заатэхнікі, прадавачкі і выхавальнікі, слесары і бухгалтары — увесь просты люд атрымоўвае ў раёне мізэрныя заробкі.

Радуе тэндэнцыя, што з кожнай чарговай зменай Дошкі гонару на ёй памяшчаюць усё больш простых работнікаў, не кіраўнікоў. Хтосьці падказаў ці самі здагадаліся, што чыноўнікі сёньня маюць і так захмарныя заробкі. А для большасьці гэтых, калі меркаваць па фотаздымку, шчаслівых людзей кожная капейчына мае пах мазаля.

Тое, што вылучылі менавіта іх — гэта таксама міг удачы, кшталту выпадзеньня падарунка пры розыгрышы прызоў у "Еўраопце". Можа выпасці, а можа і не. А калі і выпадзе, то толькі раз у жыцьці. Бо лепшых у нас хапае. З любой сотні чалавек можна адабраць паўсотні і больш лепшых.

Я ад шчырага сэрца віншую лаўрэатаў з іхнім шчасьцем, зычу ім здароўя і цярпеньня.

**Г.Станкевіч**



ЭКАНОМІКА

## «ВІТКОНПРАДУКТ» У БЕШАНКОВІЧАХ

**Самае маладое падраздзяленне прадпрыемства ТАА «Вітконпрадукт» размешчана непадалёк ад вёскі Чаўнышкі Бешанковіцкага раёна. Тут вырабляюць аснову асноў прамысловай птушкагадоўлі - інкубацыйнае яйка.**

Нягледзячы на тое, што падраздзяленне ўведзена ў эксплуатацыю ўсяго толькі год таму, яно паспяхова пераадолела цяжкасці станаўлення і выйшла на праектную магутнасць. Зараз з улікам «Чаўнышак» бацькоўскі статак «Вітконпрадукту» - 52 тыс. галоў. Гадавая прадукцыйнасць - 18 млн інкубацыйных яек, што з запасам пакрывае патрэбы кампаніі, забяспечваючы замкнёны тэхналагічны цыкл.

Вось санітарны прапуснік, дзе для супрацоўнікаў створаны выдатныя бытавыя ўмовы. Зручныя распранальні і душавыя, пральні з пральнымі машынамі. На вытворчасці - стэрыльная чысціня. Перад тым як работнік адпраўляецца ў пераходную галерэю, якая злучае карпусы птушнікаў, ён павінен прыняць душ, апрануцца ў асаблівае спецадзенне.

- Стэрыльнасць - гэта зусім не прыдзіркі ветэрынараў, - уступае ў размову тэхнолаг участка Андрэй Агурцоў. - Калі аслабіць санітарны рэжым, птушка можа захварэць. Вось тады і прыйдзецца ўводзіць славутыя антыбіётыкі, пра якія, чаго граху таіць, ходзіць так шмат чуткак. У нас гэта выключана. Прынцыповая пазіцыя кампаніі - пастаўляць на рынак прадукт, які адказвае самым высокім экалагічным патрабаванням.

Прасторны гаспадарчы двор змясціў шэсць буйных закрытых вытворчых карпусоў, падзеленых на два комплексы птушнікаў з пераходнымі галерэямі. Доступ туды дазволены толькі спецыялістам. Там і жыве пагалоўе птушкі, пра што здагадваешся па частаму спеву пеўнікаў, які даносіцца з-за высокіх белых сцен.

- Чуеце? Верны знак, што гадаванцы адчуваюць сябе выдатна, - тлумачыць Рыгор Жлановіч, кіраўнік падраздзялення. - У памяшканнях асаблівае асвятленне, якое адпавядае часу сутак. Там магутная вентыляцыя, спецыяльная апаратура падтрымлівае аптымальны мікраклімат. Птушка не заціснутая ў клетках, а можа свабодна перасоўвацца, што бліжэй да натуральных умоў.

Па просьбе Рыгора Рыгоравіча адзін з супрацоўнікаў зайшоў унутр і зрабіў некалькі здымкаў. Убачанае на фотаздымках уражвае. Ідэальная чысціня, бязмежнае мора белай птушкі, якая, як сказаў Рыгор Жлановіч, размешчаная з улікам найбольш паспяховых сусветных тэхналогій. Да таго ж - найвышэйшая ступень аўтаматызацыі: на адно вытворчае памяшканне ўсяго толькі два чалавекі.

«Вітконпрадукт» не выкарыстоўвае не толькі антыбіётыкі - гармоны росту тут таксама забаронены.

- Ды гэта і не патрабуецца, - лічыць Андрэй Агурцоў. - У якасці зыходнага матэрыялу мы выкарыстоўваем куранят элітнай пароды «РОСС-308», брэнд №1 у сусветнай бройлернай вытворчасці. Гарантаваная высокі імунітэт і аптымальныя прадуктыўныя характарыстыкі.

Гледзячы на ўсё гэта, цяжка паверыць, што ў 1999 годзе «Вітконпрадукт» пачынаў з некалькіх паўразбураных птушнікаў ў Шумілінскім раёне.

А сёння кампанія мае поўную вытворчую лінейку, абсталяваную найноўшай тэхнікай. Да прыкладу, у інкубатары абсталяванне галандскай фірмы HatchTech з вытворчай магутнасцю 14,5 млн сутачных куранят ў год.

Ёсць унікальны ўчастак па дагадоўванне маладняка - HatchBrood, які галандцы ўпершыню ў свеце змантавалі тут, на «Вітконпрадукце». Каб загрузіць гэтую магутную апаратуру працай і быў пабудаваны цэх бацькоўскага статка, куды ўваходзіць аддзяленне «Чаўнышкі».

Прымяненне інавацыйных тэхналогій дазволіла павялічыць аб'ём вытворчасці, істотна знізіць сабекошт. Сёння падраздзяленні па вырошчванні куранят-бройлераў дзейнічаюць у Бешанковічах, Лепелі, Сянне, Талачыне, Шумілінскім раёне, дзе да таго ж яшчэ ёсць цэх гатовай прадукцыі.

Для вёскі з'яўленне «Вітконпрадукта» стала вялікай і радаснай падзеяй. Гэта ж не толькі самавіты дадатак да мясцовага бюджэту, але і рашэнне набалелых сацыяльных праблем.

Вёскі пусцеюць, калі няма годнай працы. Не выключэнне і населены пункт Чаўнышкі, дзе, на жаль, з забітымі вокнамі стаяць не адзін і не два дамы. Што змянілася з прыходам сюды магутнага прадпрыемства?

У цэх бацькоўскага статка разам з «Чаўнышкамі» уваходзяць яшчэ два падраздзяленні, якія размясціліся па суседстве - у вёсцы Паручнікі і аграгарадку Свяча. Пачалі дзейнічаць адносна нядаўна, а ўжо створана 79 новых працоўных месцаў. Людзі атрымліваюць дастойную стабільную зарплату. Ды да ўсяго яшчэ і справу па душы. Цяперашняя высокатэхналагічная вытворчасць XXI стагоддзя, прызнаны лідэр, накіраваны ў будучыню.

У гэтым годзе «Вітконпрадукту» спаўняецца 20 гадоў. Прадпрыемства, філіялы якога сёння раскіданы па ўсёй вобласці, штодня вырабляе да 100 т мясной прадукцыі: тушак куранят, паўфабрыкатаў, каўбасных і іншых вырабаў. Іх можна ўбачыць на прылаўках больш за 400 гандлёвых прадпрыемстваў як у Беларусі, так і за мяжой. Каля 10 гадоў таму кампанія першай сярод падобных на Віцебшчыне атрымала права выкарыстоўваць зялёны знак Дзяржстандарту "Натуральны прадукт". Фірма неаднаразова адзначалася дыпломамі прэстыжных конкурсаў за шырокі асартымент і высокую якасць.

**Аляксандр Давыдаў**
**"Віцебскія весткі"**

ВЫРАШЫМ ПРАБЛЕМУ

# ЗДАЦЬ МЕТАЛАЛОМ

**Бешанковіцкае райпо лічыцца адным з лепшых у Віцебскай вобласці. Па чым лепшае? Зразумела, па паказчыках. З паказчыкамі тут поўны ажур. З года ў год растуць аб'ёмы прададзеных тавараў, ахоп насельніцтва і г.д. У насельніцтва закупляюць сельгаспрадукцыю, але з году ў год усё меншыя аб'ёмы. Насельніцтва цяпер не гадуе бычкоў, а спраўна здае металалом.**

Здача металалому з'яўляецца істотным дадаткам да мізэрных заробкаў і пенсій, якія мае наш люд у сваёй пераважнай большасці. Ды толькі з тым металаломам таксама не ўсё гладка.

Прыкладам, 29-га красавіка 2019 года адзін бешанковіцкі пенсіянер вырашыў паправіць свой бюджэт здадзеным чэрметам. Тым больш што займаючыся пажыццірамонтам машын і механізмаў, яго назбіраліся цэлыя горы. А тут яшчэ і грошы былі патрэбныя тэрмінова, бо зламаўся уласны легкавік, а на запчасткі не хапала.

Сабраўшы цэлы воз (каля 300 кг) ён адвёз каштоўную сыравіну на прыёмны пункт. Металалом прынялі, толькі грошы паабяцалі праздва тыдні. Чалавек абышоў усе інстанцыі, дайшоў да самой старшыні райпо Галіны Галенка. Але праўды не дабіўся. Старшыня райпо заявіла, што выплаціць за металалом яна можа і праз паўтара месяца, што ў яе няма грошай нават на муку. І што, наогул, металалом ... крадзены. Маўляў, як гэта сёння можна сабраць 300 кг металалому, нідзе яго не ўкраўшы.

Вось такім чынам наша передавое райпо абслугоўвае насельніцтва. Магчыма нехта скажа, няхай насельніцтва падзякуе і за гэта. Не згодны. Памятаеце класіку: " Деньги вперед, утром — деньги, вечером — стулья".

А папраўляць свае фінансы за кошт насельніцтва, шмат розуму не трэба.

**М.Васільеў**

ЗДАРЭННІ

# ЗАГІНУЛІ ТРОЕ

**Ноччу 8-га мая, каля 00.30 п'яны мужчына 1989 года нараджэння без правоў гнаўся па дарозе Бешанковічы-Асавец на аўтамабілі «Сітраен — Ксантыя». На другім кіламетры дарогі машыну выкінула ў левы па ходу кювет і перакуліла.**

У выніку трое пасажыраў — 27-гадовы і 26-гадовы мужчыны (два браты) і 23-гадовая жанчына, якія знаходзіліся на заднім сядзенні, загінулі на месцы здарэння. Яшчэ адна 33-гадовая пасажырка з траўмамі шпіталізаваная.

Кіроўца і дзяўчына, якія знаходзіліся на пярэдніх сядзеннях, былі прышпіленыя рамянямі бяспекі і не пацярпелі.

Кіроўца з месца здарэння ўцёк, аднак неўзабаве яго затрымалі супрацоўнікі міліцыі. У парах выдыханага мужчынам паветра ўтрымлівалася больш за 2 праміле алкаголю. У дачыненні да яго распачата крымінальная справа па ч.5 арт.317 Крымінальнага кодэкса.

Калі вы сталі відавочцам гэтага ДТЗ, следства просіць паведаміць пра гэта па тэлефоне аператыўна-дзяжурнай часткі УСК па Віцебскай вобласці +37533 399 80 44 (кругласутачна).

**А.Тутэйшы**
**паводле сайта МУС**

КУЛЬТУРА

# СЯРОД ПРАВЕДНІКАЎ НАРОДАЎ СВЕТУ

**Беларускі спіс Праведнікаў народаў свету - людзей, якія ратавалі яўрэяў у гады Другой сусветнай вайны, - папоўнілі імёны: Тамаша і Алены Куйко, іх дачкі Алены Кежа (Бешанковічы), выратаваны - Леанід Голдбрайх.**

Амбасада Ізраіля ў нашай краіне і Нацыў-Ізраільскі культурны цэнтр штогод арганізуюць у Мінску мемарыяльныя мерапрыемствы, прысвечаныя Дню Катастрофы, а таксама ўзнагароджанне Праведнікаў народаў свету - беларускіх грамадзянаў.

Гісторыя збаўлення

Сям'я Леаніда Голдбрайха жыла ў Бешанковічах. Летам 1941 г. нацысты захапілі мястэчка і сагналі каля 1200 яўрэяў у гета. Члены сям'і Куйко, з якімі Голдбрайхі сябравалі да вайны, перадавалі ім ежу.

У пачатку 1942 года нацысты наладзілі ў гета акцыю знішчэння. Леаніду, тады падлетку, удалося збегчы. Ён дабраўся да хаты Тамаша і Алены Куйко, якія прынялі яго і пакінулі ў сябе. Хавалі хлопца ім дапамагала дачка Алена. Голдбрайх прабыў у іх да лютага 1942 году. Калі па наваколлі пачалі хадзіць чуткі, што, маўляў, Куйко кагосьці хаваюць у сябе, Леаніду давялося шукаць сховішча ў іншых бліжэйшых вёсках і лясах.

У адной з вясковых хат высветлілася, што сын гаспадара - партызан. З яго дапамогай Леаніда прынялі ў партызанскі атрад, дзе ён ваяваў да вызвалення ў 1944 годзе. Тады юнак даведаўся, што яго бацька загінуў на фронце, і вярнуўся ў сям'ю Куйко: жыў у іх яшчэ год, скончыў школу, а затым атрымаў прафесійную адукацыю ў Ленінградзе.

**"СБ"**

# АМАЛЬ ДЭТЭКТЫЎНАЯ ГІСТОРЫЯ

**7-га мая адбылася бойка са стральбой ў адным з сялянска-фермерскіх гаспадарак у Бешанковіцкім раёне. А потым пагоня пацярпелага за нападаўшымі на яго маладымі людзьмі.**

Па словах вяскоўца, каля 22:00 у сацыяльнай сетцы яму напісаў невядомы мужчына і спытаў - дзе ён знаходзіцца. Даведаўшыся, што фермер дома, мужчына паабяцаў пад'ехаць да яго «пагаварыць».

Прадчуваючы канфлікт, уладальнік сялянска-фермерскай гаспадаркі патэлефанаваў у міліцыю і паведаміў, што на яго гаспадарку можа адбыцца напад, і ён будзе вымушаны абараняцца пры дапамозе зарэгістраваных ва ўстаноўленым парадку газавага пісталета і паляўнічай стрэльбы.

Прыкладна ў 22.30 да яго хаты пад'ехаў мікрааўтобус. З яго выйшаў хлопец і без дазволу увайшоў у двор дома. Яму насустрач выйшаў узброены фермер. Пасля кароткай размовы на павышаных танах, малады чалавек, як сцвярджае вясковец, кінуўся ў яго бок. Гэты момант захавала камера назірання, відэа ёсць у распараджэнні «Народных Навін Віцебска».

У момант нападу фермер змог зрабіць адзін стрэл з газавага пісталета. Аднак затым ён выпусціў пісталет, так як які нападнік пачаў абсыпаць яго ўдарамі.

Пасля гэтага ў канфлікт на баку хлопца ўмяшаліся яшчэ чацвёра ці пяцёра маладых людзей, якія прыехалі разам з ім. Яны адабралі ў фермера стрэльбу, што вісела на плячы, і падчас бойкі ён чуў, як адбыўся стрэл з гэтай стрэльбы.

Затым група моладзі кінулася ў свой мікрааўтобус, а гаспадар уладанняў у дом, каб паўторна выклікаць міліцыю. Убачыўшы, што начныя госці збіраюцца ўцячы, ён вырашыў пераследваць іх на сваім красоверы. Калі фермер стаў заводзіць машыну, прагучаў яшчэ адзін стрэл, пасля якога абсыпалася задняе шкло аўтамабіля.

Падчас пераследу мікрааўтобуса вясковец падтрымліваў сувязь з міліцыяй, а затым яму патэлефанавалі з ДАІ. Зарыентаваны фермерам экіпаж Дзяржаўтаінспекцыі і затрымаў кампанію на мікрааўтобусе, пры гэтым у іх была канфіскавана выкрадзеная ў фермера зброя.

Пасля гэтага вясковец звярнуўся ў мясцовую бальніцу, дзе яму аказалі першую дапамогу. Пазней ён зафіксаваў атрыманыя траўмы і ў судмедэкспертызе.

Назаўтра фермер даведаўся ў Бешанковіцкім РАУС, што затрыманых начных гасцей міліцыя адпусціла. Шакаваны такім рашэннем органаў правапарадку ён вырашыў звярнуцца ў СМІ.

Афіцыйны прадстаўнік УУС Віцебскага аблвыканкама Вольга Шкуратава пацвердзіла «ННВ», што інцыдэнт на глебе высвятлення асобасных адносін паміж мужчынамі сапраўды адбыўся ў Бешанковіцкім раёне, і экіпажам ДАІ быў спынены мікрааўтобус з групай маладых людзей, у якім знаходзілася разраджаная стрэльба «Сайга» і газавы пісталет.

Зараз праваахоўныя органы праводзяць праверку, па выніках якой будзе дадзена прававая ацэнка дзеянням абодвух бакоў канфлікту, а таксама, пры неабходнасці, прынята рашэнне аб узбуджэнні крымінальнай справы. Да завяршэння праверкі ўсіх затрыманых адпусцілі.

Адзначым, што паводле беларускага заканадаўства затрыманне па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства не можа доўжыцца больш за 72 гадзін (па некаторых злачынствах - да 10 сутак) з моманту фактычнага затрымання. Пасля гэтага да затрыманага павінны альбо ўжыць меру стрымання, альбо вызваліць яго з-пад варты.

**Сяржук Серабро**
**ННВ**

ГАНДЛЁВЫЯ ВОЙНЫ

# ЗАБАРОНА МАЛОЧНАЙ ПРАДУКЦЫІ

**Адною рукою гладзіць, другою б'е. Толькі «Рассельгаснагляд» зняў татальную забарону на пастаўкі ў Расею з Беларусі сухога і разліўнога малака ў тарах больш за 2,5 літры, як увёў новае абмежаванне. З 8-га траўня пад санкцыі трапіла тая ж прадукцыя амаль усіх беларускіх малочных заводаў.**

«Абмежаванні на наліўное малако ў дачыненні 37 прадпрыемстваў. У Беларусі каля 40 малочных прадпрыемстваў. Таму гэта, па вялікім рахунку, тое на тое».

Пра адмену татальнай забароны паставак у Расею беларускага малака прэм'еры краінаў Дзмітрый Мядзведзеў і Сяргей Румас дамовіліся ў красавіку. Аднак узамен сектаральных санкцыяў — у пэўнай галіне вытворчасці — Расея пастанавіла блакаваць канкрэтныя малочныя прадпрыемствы, калі тыя не здолеюць пацвердзіць сертыфікацыі бяспекі тавару. То бок патрабаванні цяпер не да складу прадукцыі, а да метадаў вытворчасці.

«Усе малочныя тавары з Беларусі вельмі смачныя, думаю, там гэтая індустрыяй лепш развітая, чымся ў нас».

— Вы купляеце беларускую малочную прадукцыю?

— Не заўсёды якасная, але набываю, праўда.

«Палітыка, толькі палітыка. Не раз набываў гэтую прадукцыю, прэтэнзіяў і нараканняў няма, не горш, чымся ў іншых вытворцаў, абсалютна задаволены».

«Беларускія прадукты вельмі добрыя, бо яны сочаць за гэтым. У нас, на жаль, часам выкідваеш тавар», — кажуць жыхары Масквы.

Пакуль абмежаванні датычаць толькі разліўнога і сухога малака, аднак астатнюю малочную прадукцыю экспартаваць мы можам.

Тым не менш страты для Беларусі ўжо складуць дзясяткі мільёнаў долараў, адзначае эканамічны аглядальнік Станіслаў Івашкевіч. Да таго ж праз нібыта парушэнні фітасанітарных нормаў «Рассельгаснагляд» абмежаваў экспарт мяснай прадукцыі з чатырох беларускіх прадпрыемстваў. Яшчэ тром мяса-малочным заводам з гэтае ж прычыны забараняюць экспарт з 10 траўня.

Аляксандр Ярашук, эканаміст, старшыня БКДП:

«Расея прыняла прынцыповае рашэнне для сябе ў 2014 годзе вяртаць сабе страчаныя пазіцыі на ўласным рынку. Вось. І менавіта ў гэтым рэчышчы і палягаюць усе праблемы для нашага экспарту і малака, і мяса».

Да таго ж паміж Менскам і Масквой узмацніўся канфлікт праз імаверна незаконны рээкспарт харчоў. Гэтак днямі «Рассельгаснагляд» пастанавіў знішчыць 90 тонаў садавіны ды гароднiны і амаль столькі ж — толькі яблыкаў ды ігрушаў.

Станіслаў Івашкевіч, эканамічны аглядальнік «Белсату»:

«На працягу першых двух месяцаў экспарт садавіны з Беларусі ў Расею павялічыўся на 2/3 у натуральным выражэнні і на 3/4, амаль што ўдвая ўжо, у грашах. Таму расейцы, імаверна, справядліва падазраюць усплёск кантрабанды ў тым ліку».

Як заявіў расейскі прэм'ер Дзмітрый Мядзведзеў, кожнае праблемнае прадпрыемства ў Беларусі патрабуе асобнага правярання. А таму ўжо неўзабаве нам давядзецца рыхтавацца да шэрагу чарговых інспекцыяў «Рассельгаснагляду».

**Юлія Лабанава**
**Белсат**

ВЫБАРЫ

# УКРАІНА ПАКАЗАЛА: МАГЧЫМА ЎСЁ!

**Украіна можа стаць своеасаблівым палігонам для будучай Беларусі. Да гэтага часу няма больш цікавай навіны, чым перамога Уладзіміра Зяленскага на выбарах прэзідэнта Украіны. Ён набраў 75% галасоў і стане новым гарантам нашай паўднёвай суседкі.**




Сам Зяленскі пракаментаваў сваю перамогу проста: «Усё магчыма». А дакладней, яго словы гучалі так: «Пакуль я яшчэ не прэзідэнт, павінен сказаць як грамадзянін Украіны ўсім краінам, экс-рэспублікам Савецкага Саюза — паглядзіце на нас, усё магчыма».

Праўда, у тое, што ўсё магчыма, гэтыя экс-рэспублікі Савецкага Саюза пакуль не вераць. Ці самі кпяць з сябе. Вельмі папулярны зараз жарт, калі адзін чалавек выстаўляе ў сеціва навіну: «Ва Украіне ў другім туры Уладзімір Зяленскі перамог Пятра Парашэнку». Пад гэтай навінай каментары: «Патлумачце, што такое „другі тур" — прашу прабачэння, я з Расіі». «А што, можна два кандыдаты? Выбачаюся, я з Беларусі».

Мой добры сябар з Кіеву пасля першага туру прэзідэнцкіх выбараў, калі Зяленскі выйшаў у фіналпрэзідэнцкайгонкі,запытаў мяне: «А што ў вас у Беларусі з моладдзю? Яна паўсюдна такая, як у нас, што галасуе за Зяленскага?» У Зяленскага нібыта не было эканамічнай, палітычнай і знешнепалітычнай праграмы. І, тым не менш, Украіна прагаласавала за яго...

Адказаў я на пытанне сябра проста: «За Зяленскага ваша моладзь галасуе, бо ў яе ёсць выбар. Чаго пра беларускую сітуацыю не скажаш». Выбар, свабоднае волевыяўленне грамадзян — гэта галоўнае, што прадэманстравала Украіна. І таму Зяленскі мае права казаць: «Магчыма ўсё».

Нездарма старшыня беларускага ЦВК Лідзія Ярмошына, высока ацаніўшы першы тур галасавання, на пытанне, што б яна ўзяла з украінскіх выбараў для досведу Беларусі, адказала: «Нічога». Свабода, адкрыты падлік галасоў, вольнае назіранне, калі журналісты швэндаюцца па выбарчым участку, як па сваёй хаце, — наўрад ці ўкладаецца ў яе галаве.

Нешта ёсць у Зяленскім ад маладога Лукашэнкі. На голым папулізме прарвацца на вышыню ўлады... Дый маладога Лукашэнку старая наменклатура не ўспрымала ўсур'ёз — для іх ён таксама быў комікам. Гэтая памылка дорага абыходзіцца Беларусі.

Зараз усе кажуць, што Украіна галасавала не столькі за Зяленскага, колькі супраць Парашэнкі і яго старой наменклатуры. Тое ж можна казаць і пра прэзідэнцкія выбары ў Беларусі ўзору 1994 года — галасавалі не за Лукашэнку, а супраць тагачаснага прэм'ера Кебіча. Выйграй Кебіч, які падпісаў з Чарнамырдзіным пакт пра пераход Беларусі на расійскі рубель, — невядома, дзе б мы былі зараз. Як адгукнецца Украіне галасаванне «супраць Парашэнкі» — яшчэ паглядзім.

Наўрад ці, канешне, будзе нешта, падобнае на Беларусь. Украіна — не Расія і не Беларусь. Калі новы ўкраінскі кіраўнік паспрабуе разагнаць парламент, перапісаць Канстытуцыю ці ўчыніць нешта такое — тамтэйшым грамадзянам нішто не перашкодзіць наладзіць новы Майдан. І ад дыктатарскіх амбіцый коміка застануцца толькі рожкі ды ножкі.

Дарэчы, за тое, што «ўсё магчыма», новы ўкраінскі прэзідэнт павінен шчыра дзякаваць мінуламу. Пётр Парашэнка — прыклад таго, як сыходзіць годна. Як толькі стала дакладна вядома, што ён не выйграе, Парашэнка не проста павіншаваў Зяленскага з перамогай — ён прапанаваў яму дапамогу, калі тая спатрэбіцца. Але і папярэдзіў, што не сыходзіць з палітыкі, ідзе ў апазіцыю, і гэтая апазіцыя будзе вельмі моцнай, аднак — на карысць краіне.

Прыняць волевыяўленне народа, такое, як яно ёсць, не фальсіфікуючы вынікі выбараў, не падладжваючы галасаванне на сваю карысць, не граючы ў «пераемнікаў», не перапісваючы Асноўны закон «пад сябе», — гэта таксама мужна і годна.

Гэта тое, чаго не хапіла нашаму «гаранту». І ў гісторыі ён застанецца не як «першы прэзідэнт Рэспублікі Беларусь», а як чалавек, які ўсімі сіламі трымаўся за ўладу.

Украінскія выбары паказалі, наколькі далёка — пры гэтым усяго за пяць гадоў і ва ўмовах вайны, — можа прайсці краіна ў дэмакратычных пераўтварэннях, калі яна гэтага жадае.

Калі-небудзь Беларусь таксама будзе абіраць другога прэзідэнта, другога кіраўніка дзяржавы. Безумоўна, у нас таксама ўзнікнуць кандыдаты-комікі. Таму зараз нам трэба прыглядацца да паўднёвай суседкі як да палігона. Трэба бачыць і асэнсоўваць, што будзе, калі да ўлады прыходзяць людзі, якія слаба ўяўляюць, што з той уладай рабіць. Калі ў Зяленскага не атрымаецца — гэта будзе і нам «прышчэпка ад папулізму». І тады казаць: «Вы хочаце, каб было, як ва Украіне?», мы будзем зусім з іншым кантэкстам.

Акаліатрымаецца,будзеважны доказ: калі людзі вольныя, калі іх чуюць, калі галасы на выбарах сапраўды лічаць, а вышэйшыя асобы дзяржавы за ўладу не чапляюцца і прызнаюць выбар народа — магчыма ўсё. Нават неверагоднае.

**Сяргей Пульша**
**"Новы час"**

ПРАГНОЗ

# ЭКОНОМИЧЕСКИЙ ПРОГНОЗ-2020: ПЯТИЛЕТКА ЗАКОНЧИТСЯ КАК ВСЕГДА

**Темпы экономического роста в этом и в будущем году не позволят выполнить задание на пятилетку, считают эксперты. Власти приступили к подготовке официального прогноза социально-экономического развития на 2020 год, который завершает нынешнюю пятилетку. Чтобы достичь ее целей, белорусская экономика должна ускориться, но эксперты не ожидают такого поворота событий.**

**Кредиторы не верят официальному прогнозу**

Министерство экономики в июне должно направить в госорганы концепцию прогноза социально-экономического развития на 2020 год, а в августе проект прогноза уже должно увидеть правительство.

По сведениям БелаПАН, уже подготовлено несколько сценариев развития белорусской экономики.

Если сбудется консервативный, то темпы экономического развития в 2020-м будут символическими. В то же время, чтобы выполнить Программу социально-экономического развития на пятилетку, события должны развиваться по целевому сценарию, а он предусматривает, что экономика в 2020 году должна вырасти процентов на пять.

Напомним, программа на пятилетку заточена на то, что за 2016-2020 годы белорусская экономика вырастет не менее чем на 12,1%. Начиналась нынешняя пятилетка плохо (ВВП в 2016-м сократился на 2,5%). В 2017-м этот минус удалось перекрыть за счет восстановления экономики на 2,5%, в 2018-м рост составил 3%.

Чтобы выйти на показатели пятилетки, власти на 2019-й год утвердили официальный прогноз, предусматривающий увеличение ВВП на 4%. Соответственно, в 2020-м белорусская экономика должна вырасти не менее чем на 5%.

Между тем, ни одна (!) финансовая организация, которая когда-либо выделяла кредиты Беларуси, не верит в то, что темпы экономического роста будут такими, как прогнозируют белорусские власти.

Более того, за последние полгода Международный валютный фонд (МВФ), Всемирный банк, Евразийский банк развития, а также Европейский банк реконструкции и развития (ЕБРР)ухудшилиэкономический прогноз по Беларуси.

Так, согласно майскому прогнозу ЕБРР, белорусская экономика вырастет в 2019 году на 2%, в 2020-м — на 1,8%. При этом европейский банк видит риски для обеспечения даже таких довольно скромных темпов экономического роста…

Апрельские оценки МВФ, Всемирного банка, Евразийского банка развития в отношении Беларуси практически одинаковы и схожи с тем прогнозом, который обнародовал ЕБРР.

**Оценка перспектив белорусской экономики**

Кроме того, прогнозы перспектив роста белорусской экономики, которые озвучивают независимые эксперты, практически совпадают с теми оценками, которые Беларуси дают кредиторы. Согласно апрельскому прогнозу Исследовательского центра ИПМ, в 2019 году белорусская экономика вырастет на 1,6%, в 2020 году — на 1,9%.

**Пятилетку любой ценой выполнять не будут**

В общем, эксперты не верят в реалистичность официального прогноза. «Международные финансовые организации оценивают потенциальные темпы экономического роста в Беларуси на уровне 2-2,5% в год. А Беларуси, чтобы за два года выполнить задание на пятилетку, нужно обеспечить рост ВВП на уровне 9%. Никаких серьезных предпосылок для ускорения белорусской экономики сейчас не видно», — отметил в комментарии для БелаПАН старший научный сотрудник Белорусского экономического исследовательско-образовательного центра (BEROC) Дмитрий Крук.

Аналогичного мнения придерживаются и другие аналитики. «Даже сложно представить, как должны сойтись звезды, чтобы в 2019-2020 годы у нас наблюдался бурный рост экономики. Оптимистичная оценка, если не будет дополнительных шоков, — рост ВВП составит 1,5-2% в этом году и столько же в следующем», — считает старший аналитик «Альпари» Вадим Иосуб.

Экономисты считают, что искусственное стимулирование экономики чревато негативными последствиями. «Если искусственно стимулировать экономику, увеличивать доходы населения, предоставлять льготные кредитынапокупкубелорусских товаров, то теоретически ускорить экономику можно в течение этого года. Однако с высокой вероятностью это приведет и к увеличению цен на внутреннем рынке, и к давлению на обменный курс», — полагает Дмитрий Крук.

Поэтому эксперты склоняются к тому, что невыполнение прогноза на пятилетку не станет критичным фактором для властей. «Все-таки эту пятилетку, если не случится никаких сюрпризов, мы сможем закончитьнафонеминимальной в истории Беларуси инфляции. Положительным результатом будет и какое-то увеличение реальных доходов населения», — отмечает Вадим Иосуб.

К тому, что официальные показатели на пятилетку не выполняются, общественность привыкла. Фактические темпы экономического роста в Беларуси оказывались ниже официально запланированных и в 2006-2010 годах, и в 2011-2015 годах.

Нынешняя пятилетка, которая истекает в будущем году, закончится, скорее всего, как всегда. Главная экономическая задача на пятилетку вновь не будет выполнена, но хоть инфляция, хочется надеяться, будет продолжать измеряться в однозначных числах. Снижение инфляции до минимальных за всю историю страны значений — пожалуй, это будет главный положительный результат уходящей пятилетки.

Каких-то более значимых экономических результатов эксперты не ждут. «На экономическую ситуацию в стране большое влияние будет оказывать российский фактор, в том числе переговоры по нефтегазовым вопросам, возможность получения российского финансирования, а также развитие событий с доступом белорусской продукции на рынок России», — полагает Вадим Иосуб…

**Дмитрий Заяц**
**БЕЛАПАН**

ЖЫЦЦЁ

# «РАБОТАТЬ НЕКОМУ. РОЖАТЬ НЕКОМУ…»

**Экономист Романчук считает, что на окраинах Беларуси углубляется настоящая демографическая трагедия. Гродно и Витебск, как магнит, перетягивают на себя население областей, а сельская жизнь неуклонно вымирает. На начало 2019 года средний возраст населения Витебской области составил 42,1 лет. Это самая старая область Беларуси.**

— В то время как население Минска пробило двухмиллионный порог, на окраинах Беларуси углубляется настоящая демографическая трагедия, — написал Ярослав Романчук. — Гродненская область граничит с Литвой и Польшей, Витебская — с Россией. Если бы Беларусь была страной с более качественной социальной системой, справедливой экономикой, конкурентоспособными институтами, честной властью и низкими транзакционными издержками, то население Гродненской и Витебской областей, как приграничных регионов, прирастало бы, развивалось, в том числе за счет соседей. Мы наблюдает прямо противоположные тенденции.

Гродно и Витебск, как магнит, перетягивают на себя население областей, а сельская жизнь неуклонно вымирает. На начало 2019 года средний возраст населения Витебской области составил 42,1 лет. Это самая старая область Беларуси. Следом за ней идет Гродненская область — 40,9 лет.

...Молодежь мечтает «свалить» в благополучную заграницу или в Минск. Гродненцы тысячами выезжают в Польшу, витебчане — в Россию. Потому что там больше перспектив, знаний, денег и надежды.

Умирают детские сады и школы. На Гродненщине и Витебщине можно проехать сотни километров и не встретить ни одного ребенка. Сельские женщины 50+ — это самоотверженные труженицы, которые борются за выживание с хроническим безденежьем, пьяными мужиками и местными царьками. Они изъедены ржавчиной быта, рутиной содержания скота и тревогой за своих детей, которые как-то там устроились в городе.

Работать некому. Рожать некому. Учить некому и почти некого. Лечить некому. Проявлять гражданскую активность некому. Думать про большую и малую родину некому. Разорвать круговую пороку местной бюрократии некому. Сплошное выживание и доживание. Надежда на пенсию, как на единственный стабильный источник «живых» денег.

Таков результат сверхцентрализации политической и экономической власти в Беларуси. Вертикаль власти раздавила горизонталь общества. Выравнивание условий жизни города и деревни идет своеобразно: почти 80% белорусов живут в городах, а в деревнях — приросшие корнями к своей родной земле старики...

Белорусам на селе отказали в праве собственности на землю, задушили предпринимательскую инициативу заоблачными арендными ставками, налогами и регуляторными удавками, а также монополистическим поведением государственных селскохозяйственных организаций. Белорусам не дали приватизировать небольшие заводики, магазинчики и рынки.

Власти сохранили безобразный «Белкоопсоюз», аморальную колхозно-совхозную систему, антинародную систему назначения местных начальников по принципу «только-не-из-местных». Они даже леса, луга, пастбища и озера поставили под свой номенклатурный контроль, что вкупе с жестким регулированием цен убило традицию держать на селе коров и другой домашний скот.

А еще безудержная стройка жилья в областных городах и Минске. Вот все это вкупе и добило, почти убило белорусскую деревню. Многие в регионах уже не используют «почти»...

Последние 25 лет власти с глубокими корнями в сельской местности, с опытом работы в колхозах, «крепкие хозяйственники» вели борьбу за унижение и уничтожение деревни. Они добились сокращения сельского населения почти на 38%.

Еще один такой период в нашей истории — и сама белорусская деревня станет историей, а понятие «малая родина» превратится в место для пикников и дикого туризма для редких ищущих экстрим вне е-хуторянства жителей всемирной паутины. Все чаще азиатской внешности.

**https://gazetaby.com**

ГАНДАЛЬ

# СКОЛЬКО НА САМОМ ДЕЛЕ СТОЯТ ТОВАРЫ, ПРОДАЮЩИЕСЯ В БЕЛАРУСИ?

**Каким образом формируются цены товаров, которые продаются в белорусских магазинах? Оказывается, многие продукты могли бы стоить гораздо дешевле...**

**Джинсы**

Для своего исследования эксперты Picodi.com взяли первые попавшиеся джинсы в каталоге одного из известных белорусских магазинов. Их средняя розничная цена — 110 рублей.

Путешествие этих джинсов начинается в Индии. Стоимость самого производства составляет чуть более 13% от окончательной цены, которую вы увидите в магазине, и это далеко не самая «затратная» сфера. Таким образом, 15 рублей за одну голубую пару — это весьма неплохо, особенно если учитывать оплату труда в странах Южной и Юго-Восточной Азии.

После фабрики готовые джинсы попадают на склад, а оттуда — в магазины. Логистика перевозок — не прихоть дистрибуторов, а потребность, за которую тоже приходится платить. По большому счёту, покупая джинсы, мы платим и за место в контейнере, в котором они были доставлены в Беларусь, и за страхование перевозок, и за таможню на границе. Это около 12,5 рублей в нашем конкретном случае.

Чтобы выйти на плюс в доходах, производитель начисляет к себестоимости джинсов так называемую маржу (в случае наших джинсов это около 3,3%, хотя некоторые марки класса люкс могут «накинуть» и до 50%) и отправляет товар дистрибьюторам, которые добавляют свою часть наценки за хранение на складе и реализацию товара в магазинах. Ритейлеры за каждую проданную пару забирают себе около половины от розничной цены. Однако нельзя сказать, что это их чистая прибыль, поскольку магазины именно с этих денег платят вознаграждение работникам, оплачивают налоги, аренду помещений и даже электроэнергию. В розничную цену включены затраты производителя и магазинов и на другие цели, среди которых особое внимание следует уделить администрации и маркетингу.

Завершающим аккордом ценообразования является НДС в размере 20%.

**Вода**

Для исследования исследователи взяли полуторалитровую бутылку одного из самых известных и рекламируемых брендов в Беларуси. Розничная цена в магазине — 95 копеек.

Питьевая вода начинает свой путь к потребителю из подземных источников, попадая сначала на линию разлива, где дозируется по бутылкам.

Стоимость этого процесса оценивается в 8% от цены бутылки объёмом 1,5 литра без учёта НДС (в нашем случае, это 0,08 руб.). Следующие 4% мы отдаём за саму пластиковую бутылку (0,04 руб.). В свою очередь пятая часть потраченных нами денег идёт на оплату счетов за электричество, на зарплату работникам, задействованным при добыче и розливе, а также другие расходы, связанные с производством и функционированием цеха.

С заводов по розливу воды бутылки с чаще всего голубоватыми этикетками попадают на оптовые базы, откуда фурами транспортных компаний развозятся по магазинам и супермаркетам. Стоимость доставки составляет около 17% от цены. Главные наценки — это маржа производителя и магазина (около 21%), а также налог на добавленную стоимость (традиционные 20% от цены нетто).

И где во всех этих расчётах место на саму воду? В полуторалитровой пластиковой таре её истинная стоимость составляет сотые доли белорусской копейки. Покупая бутилированную воду, мы платим прежде всего за упаковку, транспортировку, покрываем расходы продукции и администрации цехов по разливу, а также отдаём немалые деньги на маркетинг.

Рекламные кампании играют немаловажную роль в функционировании этого «водного» бизнеса. Этикетки с идиллическими горными пейзажами, музыка самых известных исполнителей в рекламных роликах, рекламные кампании, представляющие нам, что вода имеет огромное влияние на здоровье и состояние организма в целом... Всё это требует немалых финансовых вложений.

**Смартфоны**

Гравировка Made in China, выполненная на задней части корпуса смартфона, в принципе не должна оставлять каких-либо сомнений насчёт страны-производителя гаджета. На практике же всё оказывается не так однозначно.

Действительно, целиком устройство собирается в Китае, однако фабрики Поднебесной являются лишь завершающим звеном длинной цепочки поставок составных частей телефона. Некоторые из них производятся в других странах, а иногда и на других континентах. Экраны, процессоры и микросхемы преодолевают сотни километров, прежде чем попасть на производственную ленту. Эти особенности логистики также влияют на формирование розничной цены смартфона.

К вышеизложенному следует добавить оплату труда работникам фабрик, цифра эта незначительна (не более 1% от цены), неслучайно окончательная сборка устройства перенесена именно в Китай. Суммарная стоимость производства телефона и дополнительных аксессуаров (наушники и зарядное устройство) составляют около одной третьей от ценника, который мы увидим в магазине.

Смартфон, собранный и упакованный в коробочку, стоимость которой почти всегда составляет не более 2 долларов США, отправляется в магазины официальных дистрибуторов и розничных сетей. Приобретая телефон, мы также оплачиваем расходы на доставку с места производства на склад. И всё же это мизерные суммы (около 6 рублей за каждое устройство, купленное по указанной выше цене) по сравнению с оплатой, о которой пойдёт речь ниже.

Немногим позже телефоны попадают на полки белорусских магазинов. Кроме транспортировки и страховки, в розничную цену товара обычно включают: маржу производителя — более четверти от магазинной стоимости смартфона уходит непосредственно производителю. Эти деньги нельзя назвать чистой прибылью, и всё же эта наценка могла бы быть значительно ниже. В нашем конкретном примере это почти 360 из 1629 рублей. Известные марки могут себе позволить такую ценовую политику, в конце концов, мы говорим о продукте высокой категории, а пользователи смартфонов понимают, что зачастую приходится платить и за узнаваемость бренда.

маржу продавца — магазины, реализующие продукцию той или иной марки на официальном уровне, обычно идут на поводу у производителя, который определяет, какой процент от стоимости смартфона останется у продавца. Именно поэтому сразу после старта продаж новые модели телефонов у официальных ритейлеров, в некоторых салонах связи и других магазинах имеют идентичный ценник. В нашем случае 5,4% (а это 88 рублей) остается у продавца.

В магазине можно выбрать телефон в нескольких версиях встроенной памяти. И хотя для производителя себестоимость увеличения места для данных с 32 Гб до 128 Гб составляет несколько рублей, разница на ценнике в магазине оказывается куда более значительной. За увеличенный объём памяти покупателям приходится доплачивать 300 рублей, однако в наши дни можно рассчитывать на символическую скидку на модели прошлых сезонов.

Совершенно точно можно сказать лишь одно: топовые смартфоны стоят немалых денег, и пока не было замечено тенденций, способных изменить ситуацию. Уже сейчас производители стараются снижать свою маржу, чтобы удержать цены в пределах доступности. Технологическая гонка только начинается, а новаторские решения и внедрение инновационных компонентов дорогого стоят. Время покажет, как это будет отражаться на кошельках обычных покупателей.

**Picodi.com**

**Поўнасцю тут: http://haradok.info**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 16.05.2019 у 16.30**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.